Лойка, П.А. Афармленне шляхецкага саслоўя ў Вялікім княстве Літоўскім / А.П. Лойка // Працы гістарычнага факультэта БДУ : навук. зб. Вып. 5 / рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск : БДУ, 2010. — С. 102-115.

**А.П. Лойка**

# АФАРМЛЕННЕ ШЛЯХЕЦКАГА САСЛОЎЯ Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ

Шляхта як элітарны, пануючы, прывілеяваны стан насельніцтва ВКЛ, статус якога быў дакладна акрэслены заканадаўчымі нормамі, канчаткова сфарміраваўся толькі ў XVI ст. Працэс саслоўнага шляхецкага афармлення быў здоўжаны сама меней на два стагоддзі. Гэта было абумоўлена знешнепалітычнымі цяжкасцямі дзяржаўнага станаўлення, унутрыэтнічнымі і рэлігійнымі канфліктамі ў ВКЛ.

Напрыканцы XIV ст. асноўная маса землеўладальнікаў ВКЛ, якая не мела княжацкага тытула, пачала называцца баярамі [1, с. 65]. Хутка да гэтага азначэння дабавіўся двайніксінонім «шляхта» (ад ням. Schlacht — бітва). З XV ст. назва «баярышляхта» пранікае ў заканадаўчыя акты. Яе саслоўнае афармленне адбывалася пад уплывам суседняга Польскага



каралеўства, дзе шляхта на той час уяўляла сабою дастаткова адзінае, юрыдычна аформленае, раўнапраўнае, з пункту гледжання падарава ных манархам прывілеяў, пануючае саслоўе [2, с. 11; 8, с. 16—17]. Першая дынастычная унія ВКЛ з Польшчай 1385 г. стала першым крокам да набліжэння прававога статусу палітычнай эліты дзвюх дзяржаў. Пры вілей караля польскага і вялікага князя літоўскага Ягайлы 1387 г. нада ваў асобныя правы і льготы землеўласнікам, якія прытрымліваліся ка таліцкага веравызнання. Паводле Ягайлавай граматы каталіцкая знаць, якая пераважна была балцкага паходжання, атрымлівала неабмежава ныя правы валодання і распараджэння сваімі вотчынамі, а таксама выз валялася ад выканання шэрагу дзяржаўных павіннасцей. Акрамя таго, прывілей 1387 г. дазваляў знаці свабодна выдаваць сваіх дачок і сваячак замуж; даваў права ўдовам валодаць маёнткам мужа да смерці ці паў торнага выхаду замуж, пасля чаго зямля адыходзіла дзецям ці родным мужа. Практычна землеўласнікамі выконваўся адзін абавязак, за які ён атрымліваў зямлю і займаў месца сярод баяраўшляхты, — гэта ваенная служба, якая дапаўнялася ўтрыманнем і будаўніцтвам дзяржаўных аба рончых збудаванняў. Прывілей 1387 г. яшчэ не вызваляў цалкам баяр ства і князёў ад выплаты грашовых і натуральных данін і пакідаў іх пад вялікакняжацкай юрысдыкцыяй [3, с. 101—102]. Менавіта ў кірунку зда бычы судовага і скарбавага імунітэту ішла далейшая барацьба феадалаў за пашырэнне сваіх правоў.

Каб дабіцца жаданага выніку, землеўласнікам не спатрэбілася шмат часу. Ужо Гарадзельскі прывілей 1413 г. фіксаваў недатыкальнасць як уладанняў феадалаў, так і іх асоб. Без судовага разбіральніцтва баярын не падлягаў прамой юрысдыкцыі караля. Прывілей 1413 г. замацоўваў для землеўладальнікаўкаталікоў тыя ж нормы, што і папярэдні, 1387 г. Але па сваёй антыправаслаўнай накіраванасці ён пайшоў далей пастановы 1387 г. Параграф трэці Гарадзельскага прывілею ўстанаўліваў, што толькі «каталікі, Рымскай царкве падуладныя», маглі валодаць і карыс тацца эканамічнымі і палітычнымі прывілеямі і падараваннямі пануючаму саслоўю з боку вярхоўнай улады. У параграфе шостым пацвяр джалася забарона на шлюбы паміж каталікамі і праваслаўнымі. Асаблі ва дыскрымінацыйным у дачыненні да знаці праваслаўнага веравыз нання з’яўляўся параграф дзевяты, па якім на «дастоінства, месцы і па сады» прызначаліся «толькі каталіцкай веры прыхільнікі і падуладныя святой Рымскай царкве. Таксама і ўсе

пастаянныя ўрады земскія… на даюцца толькі спавядальнікам хрысціянскай каталіцкай веры і да саве та нашага (вялікакняжацкай Рады. — П. Л.) дапускаюцца і ў ім прысут-



нічаюць, калі абмяркоўваюцца пытанні аб дзяржаўным дабрабыце». Параграфы адзінаццаты і дванаццаты пазбаўлялі праваслаўную знаць права выбрання вялікага князя, якім зноў жа карысталіся толькі «паны і шляхціцы зямлі літоўскай, прыхільнікі хрысціянскай рэлігіі, рымскай царкве падуладныя, не схізматыкі ці іншыя паганыя» [3, с. 115—119]. Толькі ў выніку доўгай, зацятай, часамі крывавай барацьбы праваслаў ныя феадалы, якія паходзілі з беларускіх, украінскіх зямель, нарэшце дабіліся роўнасці з каталіцкай знаццю ў сацыяльнаэканамічных пра вах. Гэта было ўвасоблена ў вялікакняжацкіх прывілеях 1432 і 1434 гг. Неабходнасць іх выдання тлумачылася тым, што «гаспадар» жадае «на шыя землі Літоўскія і Рускія прывесці ў парадак і справы іх давесці да найлепшага стану…, каб паміж народамі гэтых зямель не было ніякага разладу ці непатрэбнага ўрону…, каб яны карысталіся роўнымі мілас цямі і тым больш горача і настойліва імкнуліся заўсёды да адзінства душ і дапамагалі захаванню найшчаслівейшага стану гэтых зямель». Восем пунктаў, што ішлі ўслед за гэтай прэамбулай, даравалі «рускім» князям і баярам права свабоднага распараджэння спадчыннымі маёнткамі па прыкладу «іншых месц хрысціянскіх», права атрымання ў спадчыну зя мельных валоданняў жонкамі і дзецьмі і вызвалялі княжацкіх і баярскіх падданых ад асобных дзяржаўных падаткаў і павіннасцей; дазвалялі мець ва ўжытку праваслаўнай шляхце нараўне з каталіцкай гербы і знакі шля хецтва [3, с. 119—121].

Агульназемскі прывілей 1447 г., які прэтэндаваў па сваім змесце на першую канстытуцыю ВКЛ, пацвярджаў, развіваў, абагульняў шляхец кія вольнасці і абавязкі. У дапаўненне да папярэдніх правоў шляхце ім надавалася права, якое раней належала дзяржаўнай уладзе, — судзіць сваіх падданых. Пад юрысдыкцыю землеўладальніка трапляла належнае яму валасное і гарадское насельніцтва: «а виноватый, который вину заслу жил — пану своему, а не иному будеть обязан заплатити». Гэтым жа пры вілеем вялікакняжацкая ўлада гарантавала тэрытарыяльную цэласнасць, суверэнітэт і абасобленасць дзяржавы, а таксама забараняла ўраду раз даваць дзяржаўную маёмасць і пасады іншаземцам: «Также обецуем и слюбуем, иж в землях тых наших великого князьства земль, городов, мест а любо которых — колвек дедичць, у володение и в держание, а любо некоторые вряды любо чти, не маем дать в честь никоего чюжоземца, але только родичам тых земль наших предреченых Вел. кн. Лит. дамо, и наши после будущии дадуть в держание и володенье» [3, с. 124—127].

На грунце дзяржаўнага заканадаўства на працягу XIV — першай па ловы XVI ст. адбываецца кансалідацыя самых разнастайных элементаў



шляхецкага саслоўя. Першыя вялікакняжацкія прывілеі адрасаваны «князям і баярам» ці «князям, панам і баярам». Князёўская праслойка вышэйшага стану была нешматлікай і большменш аднароднай. Да яе адносіліся ў XIV ст. удзельныя князі Рурыкавічы і прадстаўнікі вялікак няскай фаміліі — Гедымінавічы. У іх суіснаванніназіраліся своеасаблі васці. Мясцовыя «рускія» князёўскія роды, захоўваючы ўсе былыя ўлад ныя прэрагатывы, перадавалі свае ўладанні па спадчыне, а таксама мелі права на вольнае распараджэнне зямлёй, маглі дарыць яе царкоўным установам, прыбліжаным служылым баярам. Іначай складваліся адно сіны з вярхоўнай уладай у аспектах спадчыннасці і зямельных падара ванняў у князёў, што належалі да роду Гедымінавічаў і валодалі найбуй нейшымі тэрыторыямі (Віцебск, Полацк, Навагародак, Пінск, Валынь ды інш.). Перадача гэтых уладанняў па спадчыне паўсюдна не практы кавалася. Падзел зямлі паміж сынамі

наогул адсутнічаў. Не мелі мажлі васці князі, прадстаўнікі вялікакняжацкага роду, свабодна распараджац ца зямельнымі ўладаннямі. Пры вялікім князі Альгердзе, напрыклад, ні адзін з Гедымінавічаў, акрамя Кейстута, не карысталіся правам надзя ляць сваіх сыноў ці прыбліжаных асоб зямельнымі ўладаннямі ў межах сваіх княстваў [4, с. 34—38]. Гэтыя абмежаванні папярэднічалі рады кальным захадам цэнтральнай улады па ліквідацыі ўдзельных княстваў, на чале якіх стаялі прадстаўнікі рознага паходжання родаў. Справа ў тым, што за час расцягнутай на дзесяцігоддзі (1377—1392 гг.) дынастычнай барацьбы за вярхоўную ўладу ў ВКЛ удзельныя князі адчулі сябе сап раўднымі манархамі ў сваіх землях. Сувязь з цэнтрам у іх практычна адсутнічала, гаспадарылі і рабілі выбар яны самастойна. Маючы свае ўладанні на ўскраінах дзяржавы, удзельныя правадыры ўяўлялі сабой небяспечную сепаратысцкую дэцэнтралізуючую сілу. Так, па смерці другой жонкі вялікага князя Альгерда княгіні Ульяны, якая па спадчын наму праву княжыла ў Віцебску, адзін з яе сыноў Свідрыгайла Альгер давіч самавольна заняў віцебскі княжацкі пасад. Гэты ўчынак з'явіўся апошнім папярэджаннем Вільні, што яна губляе кантроль над падулад нымі абшарамі. Маючы за плячыма моцны тыл у выглядзе падтрымкі буйных баяраў і дробных князёў, што змагаліся разам з Вітаўтам за яго ўвакняжанне, гаспадар на працягу 1393—1395 гг. скасаваў буйныя ўдзель ныя княжанні ў Віцебску, Полацку, Смаленску, Ноўгарадзе Северскім, Кіеве, на Валыні і Падоллі [5, с. 70—71; 6, с. 84, с. 100—101]. Ва ўсіх вызваленых удзелах Вітаўт ставіў сваіх намеснікаў. Напрыклад, у Віцебску гэта быў Фёдар Вясна, у Кіеве — Іван Гальшанскі і г. д. Усе яны былі служылымі людзьмі — панятамі, новай генерацыяй вышэйшай палітыч-



най эліты, якая свята выконвала волю гаспадара, абяцаючы яму, як Іван Гальшанскі ў 1401 г., сваю вернасць «со всем с моим имением и с тым што держю ныне и потом от моего господаря великого князя Витовта с городми и с месты и с землями» [5, с. 70; 6, с. 84—85].

Каб не выклікаць паўсюднай незадаволенасці падданства падобнымі рашучымі крокамі, вярхоўная ўлада знайшла амартызуючыя сродкі ў выглядзе захавання дробных удзельных княстваў. На тэрыторыі Бела русі іх было некалькі: Кобрынскае (існавала да 1519 г.), ДавыдГарадок скае, Пінскае, Клецкае (усе тры — да 1524 г.), Мсціслаўскае (да 1529 г.), Слуцкае (да 1592 г.). Валодалі імі ў асноўным прадстаўнікі вялікакня жацкай фаміліі. Гэтыя княствы мелі ўнутраную аўтаномію, але ў палі тычным плане не былі вызначальнымі зза сваёй дробнасці і ў ваенных адносінах падначальваліся вялікакняжацкаму намесніку. Землі тэрыта рыяльных княстваў паступова драбніліся, а прадстаўнікі раней знакам ітых і ўплывовых родаў пераўтвараліся ў сярэдніх і нават дробных зем леўласнікаў, што траплялі часам у васальную залежнасць ад набраўшых моц новых служылых князёў ці паноў [7, с. 171; 8, с. 18]. Апошнія ў XV — першай палове XVI ст. складалі самую багатую, моцную групу шляхец кага саслоўя. Па паходжанні яны з'ўляліся нашчадкамі былых найвы шэйшых баярскіх родаў і з цягам часу атрымлівалі за службу ад вялікага князя высокія адміністрацыйныя пасады ды буйныя зямельныя ўла данні. Менавіта ў канцы XIV — пачатку XV ст. з'яўляюцца першыя ла тыфундысты (магнаты). Напрыклад, прыбліжаны да Вітаўта староста, а потым ваявода віленскі Манівід атрымаў ад гаспадара ў 1396 г. ва ўла данне вёску Геранёны Ашмянскага павета, затым у 1403 г. яму дасталіся Жупраны і Мікулішкі. У 1407 г. вялікі князь дарыць свайму вернаму слу жэбніку воласць Шоптава на Смаленшчыне і некалькі маёнткаў на Бе разіне Дняпроўскай, а ў 1409 г. яшчэ шэраг вёсак у Ашмянскім павеце. Такім чынам, ва ўладанні Манівіда сканцэнтравалася 500 дымоў ся лянскіх. А ў яго сына — Івашкі Манівіда, налічвалася ўжо 2 тысячы дымоў падданых, у чатыры разы болей. Падобнае пашырэнне сваіх ула данняў на працягу першай паловы XV ст. здзейснілі прадстаўнікі родаў Кезгайлаў, Гаштольдаў, Радзівілаў [9, с. 92].

На працягу наступнага стагоддзя, да 60х гг. XVI ст., шэрагі паноў магнатаў, якія былі прыбліжаны да віленскага двара, займалі вышэй шыя дзяржаўныя пасады і засядалі ў велікакняжацкай Радзе, пашыры лісяў у некалькі разоў. Прычым фарміраванне дзяржаўнай палітычнай эліты адбывалася на неаднароднай геаграфічнай аснове Вялікага кня ства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Сярод прозвішчаў паноўрад-



ных выхадцы з беларускіх зямель, якія з канца XV ст. павялічылі свае зямельныя ўладанні, не выключэнне і не рэдкасць, а пастаянная, знач ная, уплывовая рэальнасць. Дастаткова згадаць роды Глябовічаў, Ільлінічаў, Зяноўевічаў, Сапегаў, Багавіцінавічаў, Храптовічаў, Солтанаў, Грамык, Копацяў ды інш. [10, с. 428—440].

Да вызначанай наймагутнейшай групы паноўрадных практычна прымыкалі па сацыяльным статусе «паны харугаўныя», што асобна былі выдзелены Статутам 1529 г. (раздзел I, артыкул 15: «уставуем княжатом панятом паном хоруговным и шляхте» ды іншыя артыкулы) [11; с. 40, 48, 54]. Вызначэнне «харугаўныя» мела на ўвазе, што не пад павятовай, а пад фамільнай харугвай (сцягам) прадстаўнік панскага роду выстаў ляў сваіх воінаў на вайну ці на агляд.

Як паны радныя, так і харугаўныя знаходзіліся пад юрысдыкцыяй вялікага князя і яго бліжэйшага атачэння (гаспадарскіх камісараў) [12, с. 28—29; 8, с. 19]. У сярэдзіне XVI ст. гэтая група складала 0,8 % ад агуль най колькасці землеўласнікаў (па рэестрам перапісу іх налічвалася 2562), але ў іх руках было сканцэнтравана 30,2 % усяго землеўладання [13, с. 13—14].

Ніжэйшую ступень, якая адносілася да катэгорыі «паны», займалі прадстаўнікі ваеннаслужылага элемента з вызначэннем «панята». Іх можна аднесці да заможных землеўласнікаў, што выдзяляліся на шы рокім фоне сярэднедробнапамеснага прадстаўніцтва асобнай вайско вай адзінкай [14, с. 105]. Да сярэдзіны XVI ст. «панята» ў дакументацыі вялікакняжацкай канцылярыі часам ставіліся побач з «варанамі», што служылі пры двары вялікага князя і выконвалі разнастайныя бюракра тычныя і ахоўныя абавязкі. Так, у 1522 г. вялікім князем быў складзены «список имен тых панят и дворян, которие мают в заставу до Киева еха ти», які ўключаў 12 служылых людзей, што разам выстаўлялі 195 коней [15, с. 122]. Паступова да канца XVI ст. па меры ўсталявання сістэмы ўрадаў тэрміны «дваранін» і «панята» знікаюць, паглынаючыся агуль нымі вызначэннямі «паны», «шляхта», «рыцарства».

Менавіта пад апошнія дзве дэфініцыі трапляе найшырэйшае кола ваеннаслужылага люду, што да часу агульнавызначанасці насіла най менні «баяры», «баярышляхта», «земяне», «баяры панцырныя», «слугі шчытныя», «слугі путныя». Па маёмасці гэтых службовых людзей мож на падзяліць на пяць прадстаўніцтваў: 1) уладальнік некалькіх вёсак; 2) уладальнік адной вёскі; 3) уладальнік часткі (некалькіх двароў) вёскі; 4) уладальнік часткі зямельнай уласнасці без падданых; 5) беззямель ны. Па дадзеных «Попісу войска Вялікага княства Літоўскага» 1528 г.



катэгорыя землеўладальнікаў, што валодала не больш чым 18 валокамі, складала на беларускіх землях 81 % усіх уласнікаў зямлі. Але ў іх руках знаходзілася далёка не пераважная плошча (53,6 %) усяго зямельнага фонду Беларусі [16, с. 169—170].

Валоданне зямельнай уласнасцю, адбыванне ваеннай службы ў XVI ст. было двума галоўнымі крытэрыямі, па якіх насельнікі ВКЛ маглі залічвацца да катэгорыі прывілеяванага шляхецкага саслоўя.

У XV—XVI ст. адбыўся значны рост прыватнага землеўладання праз дарэнні вялікакняжацкія і свецкіх феадалаў, куплюпродаж, залог (зас таву) і іншыя шляхі.

Найбольш папулярным, важкім па зямельных плошчах, усеабдымным (ад князя да баярына) быў першы шлях. Ужо на рубяжы XIV—XV ст. упамінаецца падараванне вялікім князем Вітаўтам двум полацкім баярам уладання, якое раней выслужыў іх прадзед [17, с. 64]. XV — першая палова XVI ст. стала часам глабальнага пераразмер кавання вялікакняжацкага зямельнага фонду на карысць свецкага. Так, з выяўленых 4886 дакументаў у 18 кнігах метрыкі ВКЛ за другую чвэрць XVI ст. 3343 матэрыялы (68,4 %) змяшчаюць сведчанні аб складванні і развіцці феадальнага землеўладання. А з гэтага дакументальнага комп лексу большая палова (54,5 %) прадстаўлена падаравальнымі вяліка княжацкімі прывілеямі ці пацвярджальнымі актамі на зямельныя ўла данні [13, с. 6, 8].

Гаспадарскія граматы фіксуюць два асноўныя віды падараванняў: часовае («да волі», «да поўнай волі», «да сваёй волі», «да волі гаспадарс кай», «да жывата», «да двух жыватоў» і г. д. — на тэрмін жыцця аднаго ці некалькіх пакаленняў) і «на вечнасць» з правам ці без права адчужэння [18, с. 194—196]. Напрыклад, вялікі князь Аляксандр у 90я гг. XV ст. часова падараваў полацкаму двараніну Корсаку «люди в Полоцком по вете со всеми их землями, и к тому три пустовщины»[19, с. 23—24]. Зна камітаму князю Канстанціну Іванавічу Астрожскаму і яго сыну Іллі Жыгімонт I у 1522 г. здарыў маёнтак Смальняны Аршанскага павета з наступнай фармулёўкай: «дали есмо до дву животов, его милости до живота и сыну его до живота» [20, с. 146—147]. На «вечнасць» з правам «отдати и продати» атрымаў ад Аляксандра ў 1492 г. дваранін Яцка Ка пачэвіч маёнтак Дзярэчын. У 1506 г. вялікі князь у сваёй грамаце адзна чыў, што «дали вечно» яго службовай асобе двараніну Пятру Эпімаха віч у вёскі Цяліцінічы і Таболчынічы ў Полацкім павеце без агаворкі на права адчужэння [21, с. 32; 22, с. 216—217].

Прынцып умоўначасовага ўладання не мог задаволіць уласнікаў зямлі. Яны імкнуліся пераўтварыць яго ў «вечнае», што рабілі без знач-



ных перашкод. Сведчаннем таму — працэнтныя суадносіны спадчыннага і часовага землеўладання ў 20—50я гг. XVI ст. Першае складала 74,4 %, у той час як другое — 25,6 % [13, с. 10]. У рэальнасці працэнтная стаўка так званых «вечистых» валоданняў была яшчэ вышэйшай, бо не аднойчы крыніцы фіксавалі перадачу зямлі, якая па ўмовах здарвання павінна была вяртацца ў распараджэнне вялікага князя, у спадчыну да прадстаўніка новага пакалення былога часовага ўладальніка [23, с. 21].

Падараванне зямельных уладанняў уваходзіла ў кампетэнцыю не толькі вялікага князя. Сваіх верных слуг-падданых адорвалі самым вялікім багаццем — зямлёю як прадстаўнікі вялікакняжацкай фаміліі, так і буйныя магнатыземлеўладальнікі. Так, у 1528 г. князі слуцкія Юры і Сямён Алелькавічы «листом добровольным» свайму даўняму вернаму служэбніку пану Паўлу Шуневічу далі ў валоданне фальварак Жыцкі воласці Слуцкай «с поддаными тамошнеми, з лесами, з деревом борт ным, з уловами бобровыми, лосиными и медвежими и з усякими…» [24, № 7544]. Шчодрым на зямельныя падараванні быў «граф на Міры» Юры Ільлініч. У 1566 г. ён, «дознавшы верных цнотливых и зычливых послуг служебника моего Ярмолы Мисуровича Аравинка Овсядовского, кото ры он мне верне а зычливе чинил и чынит», прадаставіў яму разам з родным братам Гурынам у валоданне былыя землі іх бацькоў у маёнтку Дворыцкім, пры гэтым «кгрунту на вечность записавшы и подданого прыдал». Але тым не задаволіўшыся, «ино видечы, иж ещо крывда, дал есмь ему … вечыстыми часы сем волок кгрунту моего власного от замку мойго Мирского одлучоного речоное Трубачовское в земли Новгород ской лежачого…», былы зямельны ўласнік гарантаваў новым уладаль нікам, што «моцным будет он сам, жона, дети и потомки их будут кому хотя и за што хотя заставить, заменить, дать, продать, даровать и на веч ность записать и всих подлуг уподабаня своего пожытков вынайдовать без всякого од меня самого, потомков моих, слуг моих и нияких особ

перешкоды под зарукою важности речы. И на том дал есми ему тот лист вечысты…» [24, № 7780]. У берасцейскай гродскай кнізе 1568 г. маецца запіс 1568 г. аб здарванні тым жа Юрыем Ільлінічам маёнтка Слівінска га Берасцейскага павета свайму слузе Яну Вітуньскаму. У тым жа годзе «граф на Міры» надаў Васілю Шкодзічу 15 валок, якія належалі да Мірскага замка над ракой Берасцянкай, «за верную службу» [24, № 7796, № 7797, № 7800]. Гэткіх дакументаў не больш, чым даравальных вялі какняжацкіх грамат, але і яны — зусім не рэдкасць [24, № 7669; 26, с. 39]. ‘

Дарчыя вялікага князя і яго бліжэйшага атачэння не розніліся па даравальным змесце. Усе яны надаваліся за верную, сумленную («зац-



ную») службу на свайго гаспадара. Такой службай у першую чаргу была ваенная. Прынцып суаднясення паняццяў «зямля» — «вайна» — «шлях та» для XVI ст. быў у Вялікім княстве Літоўскім узаемазалежным і ўзае мападразумявальным. Менавіта ён — гэты прынцып — асноўны ў зва роце вялікага князя да велікакняжацкай шляхты ў 1563 г.: «каждый, хто ся шляхтичом быти менить и войну служити повинен» [25, с. 137]. На гэтай падставе баяры атрымлівалі права на зямлю, і разам з тым ім ад чыняліся дзверы ў прывілеяванае элітнае саслоўе. Так, у 1542 г. за бая рамі Віленскага павета замацоўваліся землі, якімі яны раней валодалі, выконваючы ваенныя абавязкі: «Иж дали есьмо (падскарбі дворны Іван Андрэевіч. — П. Л.) землю пустовскую, най мя Петьковщызну, бояром: Войтеху Митковичу а Яну Кгокговичу на службу военную» [26, с. 226] . У 1508 г. атрымаў ва ўладанне ад Жыгімонта І «сельцо» Ермоліна Ша пачніка ў Смаленскім павеце васкаўнічы смаленскі Васка Касцюшковіч, «и он… маеть с того службу панцерную заступовати». У 1523 г. вялікі князь за выкананне тых жа абавязкаў выдаў берасцейскаму пушкару Марку Зубрыцкаму прывілей « на три земли пустовских в повете Бере стейском вечностью» [27, с. 287; 28, с. 72].

Менавіта ваенная земская павіннасць стала тым асялкам, якім вызначалася прыналежнасць да цяглага сялянскага, мяшчанскага ці шля хецкага служылага «люду». Да сярэдзіны XVI ст. праз фільтры судовых пастаноў, заканадаўчых актаў, аграрнай рэформы ўсталёўваўся асабовы склад вышэйшага дзяржаўнага прывілеяванага саслоўя, ён быў рэзка аддзелены ад сялянства і мяшчанства. Судовыя разбіральніцтвы аб не дапушчальнасці прыцягнення баяршляхты да выканання сялянскіх павіннасцей стала распаўсюджанай з’явай у першыя дзесяцігоддзі XVI ст. Тыповай у гэтым плане з’яўляецца пастанова вялікага князя Жыгімон та І па справе 1541 г. баяраў Ваўкавыскага павета Пілко Есковіча і Пет раша Андрэевіча. Сутнасць канфліктнай сітуацыі заключалася ў тым, што пры апісванні двара Ваўкавыскага пісар Троцкага павета Багдан Мацкевіч Шаула з намовы прыставаў ваўкавыскіх пастанавіў: «Иж бы то не были боярешляхта, але слуги путные и николи на войну не ежд чивали, одно дякла даивали и сено косили». З гэтай нагоды прадпісва лася Есковічу і Андрэевічу штогод па дзве капы грошаў асадных вы плачваць. На што баяры запярэчылі: «А они суть боярешляхта, а нико ли дякла не даивали и сена не косили, аднож з давных часов предки их и они сами служили нам службою военною так, яко и иншие бояре шляхта. И били нам (вялікаму князю. — П. Л.) чолом, абыхмо и тепер их заховали при старине, а тых дву коп осадных пенязей на них правити



не велели». За сведку, які мог пацвердзіць праўду баяраў, быў прыцяг нуты ўраднік вялікай княгіні Боны Мікола Хадакоўскі, што папярэдне выконваў абавязкі ваўкавыскага прыстава. Ён і засведчыў, «иж семи надцати лет тые бояры за его вряду николи дякла не даивали, ани жад ных речей тяглых не полнили, одно завжды поспол з ыншими бояры шляхтою службою боярскою на нас, господара, служивали». Зыходзя чы з гэтага Мікола

Хадакоўскі з упэўненасцю заявіў, «иж они суть боя решляхта, а не путные люди». Тое ж пацвердзіў другі аўтарытэтны сведка велікакняжацкі піўнічы Міско Еўтуховіч. Аднагалоснасць сведкаў пад штурхнула вялікага князя да вынясення вердыкту: «З особливое ласки нашое господарское тых бояр Волковыского повету на имя Пилка Ес ковича и Петраша Андреевича и з их братьею с тых двух коп грошей осадных пенязей вызволяем… Иж они не мають через то коп осадных платити и никоторых служоб тяглых на нас служити, одно мають нам службою шляхетскою служити и на войну ездити по тому, яко и иншие бояре шляхта» [29, с. 135].

З гэтага відаць, што ў першай палове XVI ст. для пацвярджэння шля хецкага статусу дастаткова было сведчання «людей добрых» аб выка нанні ваеннай павіннасці прадстаўнікамі служылага саслоўя. Пры гэ тым валоданне зямельным надзелам не з’яўлялася абавязковай умовай. Так, у справе 1533 г. баярына Іллі Юшковіча, які не змог захаваць у сва ёй уласнасці былое зямельнае ўладанне, гаспадар здзейсніў «вырок… водле Статута, оного боярина волным вчинити…, бояром, кому хотя, волно служити». Грунтавалася гэтая пастанова на сведчанні пана Вой цеха Андрашовіча: «иж кгды был дел (падзел. — П. Л.) предком их, тог ды тых бояр двох (прозвішча другога крыніца не ўтрымлівае. — П. Л.) вымовено, иж суть шляхта и ими ся не делили, одно земли их роздели ли» [27, с. 59].

Такім чынам, на першую палову XVI ст. крытэрыі шляхецтва былі вызначаны дакладна і рэалізоўваліся ў штодзённай практыцы, якая на туральным шляхам акумулявалася ў такіх заканадаўчых актах, як пас танова Віленскага сойму 1522 г. («Устава о выводе шляхетства за при мовою») і Статут ВКЛ 1529 г. У афармленні заканадаўчых нормаў ВКЛ арыентавалася на польскую мадэль, якая ўжо была апрабавана паста новай Радамскага сойму 1505 г. («толькі той можа лічыцца шляхціцам і атрымліваць… пасады ды прывілеі, кожны з бацькоў якога — шляхціц… Неабходна лічыць таксама тых шляхтай, хто народжаны бацькамшляхціцам, хаця б маці яго была больш нізкага паходжання») [30, с. 137].



Першы Статут ВКЛ у працяг папярэдніх прывілеяў шляхце і на ўзор каралеўства Польскага паставіў шляхту ВКЛ на вызначальнае, адасоб лена прывілеяванае месца ў дзяржаве: «Простых людей над шляхту гас падар не маеть повышати. Тэж нешляхту над шляхту не маем повыша ти, але всю шляхту заховати в их почтивости» (раздзел III, артыкул 10) [11, с. 75]. Каб даказаць слушнасць сваёй прысутнасці ў шляхецкім ася родку, у тым выпадку, «естли бы хто кому рек, же бы не был шляхтич», неабходна было «поставити з отца и з матки два шляхтича, а тые ма ють присягнути». У незайздроснай сітуацыі, калі «род звёл, а он тубы лец, тогды бояр шляхту околичных, которые бы знали его, иж есть шляхтич, маеть поставити» таксама пад прысягаю. Для «чужоземцев», што імкнуліся атрымаць велікакняжацкае шляхецтва, патрабавалася са сваёй краіны «з ураду под печатми листы … принести, выводячи шля хетство свое». Калі зрабіць тое было немагчыма з прычыны «естли бы валка с тое стороны была», тады шляхецтва замежніка маглі пацвердзіць пад прысягаю два шляхціцы з яго краіны (раздзел III, артыкул 11) [11, с. 75—76].

Захады велікакняжацкай улады па ўвядзенні кантролю над працэ сам шляхетызацыі грамадства прывялі да чаканага выніку: большменш стабілізавалася вельмі рухомая да XVI ст. мяжа паміж шляхецкай масай і прадстаўнікамі ніжэйшых саслоўных груп. Калі ў дастатутны час неад нойчы адзначаліся сялянскашляхецкія, мяшчанскашляхецкія і наад варот узаемапранікненні, то на сярэдзіну XVI ст. гэта было ці рэдкім выключэннем, ці незаконнай практыкай.

Апошні рэзкі падзел паміж сялянствам і дробнай шляхтай паклала аграрная рэформа сярэдзіны XVI — пачатку XVII ст. У дзяржаўных ула даннях рэвізоры, што

перамяралі землі, павінны былі канчаткова адме жаваць баяраўшляхту ад вышэйшых катэгорый сялянслуг, бо «отмены» за ўзятую зямлю падаваліся толькі першым. Тое ж самае датычыла ся і прыватных уладанняў.

Вызначэнне цяжкапераадольных саслоўных межаў было выклікана пашырэннем правоў, якія прадстаўляліся шляхце велікакняжацкай ула дай, што прыводзіла да імкнення далучыцца да прывілеяванай грамад скай эліты. Бар’еры былі пастаўлены, але канчатковай ізаляванасці шляхты не адбылося. Анабліраванне прадстаўнікоў сялянскага ці мя шчанскага саслоўяў ажыццяўлялася ўладай вялікага князя. Перманен тна гэта адзначалася. Рытуал з наданнем прывілея на шляхецтва і герба быў распрацаваны дасканала. Прыкладам таго прывілей 1533 г. Марці ну Чыжу Канстанцінавічу, які шэрагі «шляхетства помнажают»: «Иж мы



(вялікі князь Жыгімонт І. — П. Л.) маючи ласковый взгляд на цноты и верности и теж на верныи послуги Мартина Чижа Костантыновича з Нетечи, доброго и потребного служебника нашого, который напротив ку нам з великою працою и пильностью взычил, и сам себе, нам и неко торим паном и двореном нашим, на дворе нашом от давных часов по чтивеся радечи, велми вдячного и приемного оказал, его самого з сын ми и з девками и зо всим его потомством ошляхчаем, и в местцы шля хетства его приворочаем, и даем ему герб…

Еще того то Мартина Костантыновича Нетецкого и его потомки, пока его власное поколене будет тривати, годным быти привильем и волностьям и чти так духовных, яго и светских, которыми иншими ры цери и шляхта в королевстве, и у Великом князьстве нашом Литовском, и теж во всякой везде речи посполитой хрестиянской уживати и весе литься звыкли.

Всим, которим ест потреба тых речей ведати объявляем и оповеда ем, приказуючи всим посполитость у шляхетском написе и в поступе на знамененых, абы того Мартина Чижа Нетецкого з его всими потом ки за шляхту бы есте мели, ани жадною соромотою явне або потаемне их ображати и пренагабать не смели и овшем з дозволеня нашого кро левского в том на которых кольвек местцах быть допустили и допуща ли. Итож мы вам за ласкою нашою кролевскою призволяем…» [29, с. 96—97; 27, с. 172—173].

З гэтага прыкладу відаць, што ў мірны час прадстаўнікі іншых сас лоўяў атрымлівалі шляхецтва за верную службу пры двары гаспадара і бліжэйшых яго саноўнікаў. У ваенныя ж часы шляхецтва здарвалася ратнікам за гераічныя ўчынкі. Войны неаднакроць вяліся ў другой па лове XVI — пачатку XVII ст., таму папаўненне шляхецкага саслоўя не прыпынялася. Досыць адзначыць той факт, што зарэгістраваны ў лета пісе Панцырнага і Аверкі. У часе вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй у 1605 г. «хадзіў дабываць» горад Фелін (сучасны Вільяндзі — горад у Эс тоніі) віцебскі мешчанін Марко Ільлініч Лытка. Маючы пад сваёй звер хнасцю 500 мяшчан, яму ўдалося захапіць гэты шведскі фарпост. За гэткі ўчынак у 1606 г. «мяшчаніну віцебскаму Марко Лытце быў дадзены пры вілей на шляхецтва». З таго часу яго род меў прозвішча Фелінскія [5, с. 195]. Праўда, у даследуемы час падобны шлях набілітацыі не выз начаўся масавасцю. У першай палове XVII ст. адбылося толькі 20 анаб ліраванняў [31, с. 208].

Шляхі пранікнення ў шляхецкае саслоўе не абмяжоўваліся толькі легальнымі каналамі. Практыкаваліся таксама нелегітымныя махінацыі



па набыццю шляхецтва. Фіксаваліся яны па ўсёй Рэчы Паспалітай у другой палове XVI — першых дзесяцігоддзях XVII ст. Здараліся выпадкі, калі шляхціц вышукваў мужа для сваёй дачкі сярод заможных мяшчан ці сялян. Тыя ж праз пэўны час пачыналі называць

сябе шляхціцамі, што не адпавядала статутным нормам. Яшчэ адной лазейкай у шляхецтва з'яўлялася дакументальная фальсіфікацыя, якой займаліся нетытулаваныя службовыя асобы судоў ці велікакняжацкай канцылярыі. Спасцігшы ўсю мудрагелістасць і хібы справаводства, яны з цягам часу да свайго прозвішча ў кнігах запісаў дадавалі дэфініцыю «nobilis». Назіра лася адкрытае шэльмаванне, калі зухаваты выхадзец з вёскі ці месціч уладкоўваўся на службу да магната, заслугоўваў яго даверу, далучаў да свайго прозвішча канчатак «цкі» ці «скі» і пад яго аўтарытэтам абара няў сваё ўяўнае шляхецтва. Здараліся выпадкі розыгрышу драматыч ных спектакляў. Падкупляўся шляхціц, які прылюдна абвінавачваў про сталюдзіна быццам бы ў прысвойванні шляхецтва. Той даводзіў справу да судовага разбіральніцтва, пад час якога два несумленныя сведкі пац вярджалі яго прыналежнасць да набілітэту, што і фіксавалася судовай пастановай [31, с. 207—208].

Такім чынам, межы шляхецкага саслоўя былі ані празрыстыя, ані замураваныя. Найбольш карпаратыўнай з'яўлялася вышэйшая элітная група, куды пранікалі адзінкі. Больш мабільным быў пераход да сярэд няга шляхецкага ўзроўню і наадварот, з вышэйшых катэгорый шляхты да ўзроўню дробнашляхецкага.

ЛІТАРАТУРА

1. Грицкевич, А. П. Формирование феодального сословия в Великом княжестве Ли товском и его правовые основы (XV—XVI) / А. П. Грицкевич // Первый Литовский статут 1529 года. Вильнюс, 1982.

2. Грыцкевіч, А. П. Беларуская шляхта / А. П. Грыцкевіч // Спадчына. 1993. № 1.

3. Белоруссия в эпоху феодализма (БЭФ). Т. 1. Минск, 1959.

4. Любавский М. К. Очерк истории ЛитовскоРусского государства до Люблинской унии включительно / М. К. Любавский. М., 1910.

5. Полное собрание русских летописей (ПСРЛ). М., 1975. Т. 32.

6. Шабульдо, Ф. М. Земли ЮгоЗападной Руси в составе Великого княжества Литов ского / Ф. М. Шабульдо. Киев. 1987.

7. Гісторыя Беларускай ССР. Мінск, 1972. Т. 1.

8. Грыцкевіч, А. П. Шляхта Вялікага княства Літоўскага да Люблінскай уніі 1569 году / А. П. Грыцкевіч // Годнасць. 1993. № 1.

9. Ochmański, J. Historia Litwy. Wyd. II / J. Ochmański. Wrocław, 1982.

10. Малиновский, И. А. Рада Великого княжества Литовского / И. А. Малиновский. Томск, 1912. Т. 1.

11. Первый Литовский статут. Вильнюс, 1985. Т. 1. Ч. 2.

12. Грушевський, М. Історія України — Руси / М. Грушевський. Київ, 1994. Т. 5.



13. Менжинский, В. С. Феодальное землевладение в Белоруссии во второй четверти XVI в. (по материалам книг записей Литовской метрики): автореф. дис. … канд. ист. наук / В. С. Менжинский. М., 1988.

14. ДоўнарDЗапольскі, М. В. Гісторыя Беларусі / М. В. ДоўнарЗапольскі. Мінск, 1994.

15. Литовская метрика (ЛМ). Книга записей (Кн. зап.) 10. Вильнюс, 1997. № 118.

16. Менжинский, В. С. Структура феодального землевладения в Великом княжестве Литовском (по материалам переписи войска 1528 г.) / В. С. Менжинский // История СССР. 1987. № 3.

17. Полоцкие грамоты XIII—начала XVI в. (ПГ). Вып. 1. М., 1977.

18. Пичета, В. И. Феодальное поместье в XV—XVI вв. в Великом княжестве Литов ском / В. И. Пичета // Белоруссия и Литва в XV—XVI вв. М., 1961.

19. ПГ. М., 1980. Вып. 3.
20. Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Архео графическою комиссиею. СПб., 1848. Т. 1.
21. Акты Литовской метрики. Варшава, 1896. Т. 1. Вып. 1.
22. ПГ. М., 1978. Вып. 2.
23. Менжинский, В. С. Феодальное землевладение в Белоруссии во второй четверти XVI в. (по материалам книг Литовской метрики) / В. С. Менжинский // Крестьяне и сельское хозяйство России в XIV—XVIII веках. М., 1989.
24. Галоўны архіў старажытных актаў у Варшаве. Дакументы пергаментныя.
25. ЛМ. Кн. 7. Вильнюс, 1996.
26. ЛМ. Кн. 6. Вільнюс, 1995.
27. ЛМ. Кн. 8. Вильнюс, 1999.
28. Мянжынскі В. С. Метрыка Вялікага княства Літоўскага як крыніца па гісторыі землеўладання Беларусі (першая палавіна XVI ст.) / В. С. Мянжынскі // Вес. АН БССР. Сер. грамад. навук. 1987. № 2.
29. Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кн. 28. Мінск, 2000.
30. Volumina legum. СПб., 1859. Т. 1. 31. Европейское дворянство XVI—XVII вв.: границы сословия. М., 1997.